# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

№ 1 КРАСАВІК 1938 Г. ГОД III



Вясна фото Зданоўскіх.

## З Ь М Е С Т:



**ЧЫТАЙЦЕ і ПАШЫРАЙЦЕ „БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС".**

**ПРЫСЫЛАЙЦЕ СКЛАДКІ і АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦТВА.**

| СКЛАДКІ: | 3 зл. на год<br>1 зл. 50 гр. на паўгода<br>асобны нумар 30 гр. | АДРЭС РЭДАКЦЫІ:<br>Вільня. Каралеўская вул. 3-8<br>Конто: Rozrachunek 91. |
|---|---|---|

Рэдакцыйная калегія:

Ф. СТЭЦКЕВІЧ, С. ПАЎЛОВІЧ, М. ТАНК, Р. ШЫРМА і В. ТУМАШ.

Рэдактар-выдавец: Ф. СТЭЦКЕВІЧ.

Druk. M. Bogatkiewicza i B. Trućko.
Wilno, ul. Ad. Mickiewicza 22-a.

# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТАРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК

№ 1 КРАСАВІК 1938 г. ГОД III


## АД ВЫДАВЕЦТВА.

Ізноў перабоі. Выдаваньне „Баларускага Летапісу", якое летась ужо наладзілася больш-менш акуратна, — на некалькі месяцаў ізноў перарвалася. Прычыны гэтага розныя. Перадусім — матар'яльныя варункі надалей яшчэ ўсё астаюцца невясёлыя. Гэтая справа ляжыць на сумленьні ў першую чаргу тых нашых чытачоў, што не аплачываюць акуратна падпіскі.

Другая рэч — зусім незалежныя ад нас прычыны вонкавага характару таксама ў працы не памагаюць.

Ня гледзячы на ўсё, працу пачынаем — ужо раз трэці — нанава. Пачынаем з верай, што разам, супольнымі сіламі і натугамі, даб'ёмся таго, што часапіс у канцы ня толькі будзе выходзіць акуратна, але адпаведна да беларускіх культурных патрэб пабагацее і разрасьцецца.

МАКСІМ ТАНК.

* * *

Межы, дзе глянеш, ўсё межы,
глушыцца слова і гук.—
Колькі ёсьць поглядаў сьвежых,
братніх працягнутых рук!

Ўсё яшчэ хмарыцца вечар,
шлях засьцілае імгла,—
колькі у кожнай сустрэчы
ласкі зары і цяпла!

Бродзяць паўночныя сагі
з песенным нашым віном,—
колькі ня выпітай брагі
ў нас, за супольным сталом.

Хочацца сьціснуць далоні,
ў поглядзе дружбу спаткаць;
поўныя накіпам, звонам,
хмельныя чары падняць;

высякчы іскрамі гукі
з нашых цымбалаў жывых...
Нат' калі зраняцца рукі
дротам на межах глухіх.

14.III.38.

# У вагоне.

Уздоўж вагонаў ляцяць сьветлякі.

То паравозныя іскры паласуюць шэры змрок, сьцелюцца з дымам па прыдарожных лагчынах, па сьлізкім іржэўніку асеньніх палёў, над алешнікамі, над лазьнякамі. Гультаявата паўзуць тэлеграфныя слупы, паволі ўздымаецца і апускаецца дрот — гэта ўбачыш усё з вакна.

Вагон старанна выстуквае на стыках сваю аднастайную песьню ды грыміць, грукаціць на ўсе свае буфяры і кручча. Жоўтае полымя сьвечкі палыхае на змрочных сьценах, і таму ў вагоне, у звычайным вагоне „Максіма", неяк цёмна і надзвычайна прытульна. Праўда, тут і жорсткія лавы, і нічым ня прыглушаны грукат калёс, але прытульнасьць ня ў гэтым, яна ў нечым другім... Вунь стары дзядок, прымайстраваўшы пад голаў палатаную кайстру, лёг, пазяхнуў соладка і, ні да кога асабліва не зварочваючыся, бубніць пацiху пад нос:

— А я, даражэнькія, у горад еду да сына...

— Куды? — пытае нехта з верхняе лавы.

— У горад, кажу, да сына. Таму ня бачыў даўно... праведаць вось трэба, як жыве, як што, ды ці мала чаго.

— Гэта ты, стары, правільна, бо чалавека да чалавека цягне і як яшчэ цягне.

— Чаму не! Ці-ж ня родны ён сын мне? Бач, адбіўся ад хаты даўно, ну, а мне старому і нудна.

— Вядома, яшчэ як... — і нечый голас з верхняе лавы пачынае расказваць нешта нуднае, нешта цягучае. Стары дзед пазяхае ўсё болей і болей, дрэмле, і урэшце, сьпіць, прымайстраваўшыся шчыльна да сваёй кайстры. А з верхняе лавы ўсё чутна:

— Чаму не... І як яшчэ чалавека да чалавека цягне, няма ніякай магчымасьці стрымацца, сьцерпець, каб ня ўбачыцца. Вось я з жонкай месяц ня бачыўся...

— А годзе вам лапці плесьці: цягне ды цягне... І дзе-б цягнула там. Расстаўся на месяц з жонкай, дык яму замарудзіла... Не, мой сокал, ня ў месяцы справа, пажыў-бы ты з маёй — тады-б і сказаў.

То ўмешваецца ў гутарку селянін гадоў пад сорак. Звычайнае аблічча, выцьвілыя вочы, шырокія плоскія пальцы, якія так добра трымаюць ці цэп, ці акосьсе ў руках. На ілбу глыбокія маршчакі, нахмураныя пасмы бравей і з-пад іх мяккі, поўны цяплыні і душэўнасьці погляд. Страціўшая колер жакетка і такія-ж порткі гавораць аб тым, што чалавек пабачыў у жыцьці і акрамя сваіх лапцей, якія саромліва выглядаюць з-пад портак і нібы выбачэньня просяць за сваё суседзтва з імі. Усё-ж такі з фабрычнай тканіны порткі, а лапаць што, — звычайны лапаць, наскі, сялянскі.

Побач з селянінам хлопчык гадоў трох. У яго распухшае вока, ён трэ яго запэцканым кулачком, трэ і часта плача.

— Ціха, сынок, вось хутка прыедзем у горад, пойдзем да дохтара, ён табе цукерку дасьць і ня будзе вочка балець...

— Хачу да мамы!

— Што мама? Прыедзем з гораду, пабачыш і маму.

— Да мамы хачу...

— Ну, годзі, сядзі ціханька, а то дзядзі сварыцца будуць...

Хлопчык ня плача, касурыцца здаровым вокам на ўсіх, схіляе галаву, пільна ўглядаецца на кончык свайго жоўтага новенькага лапціка і цярэбіць рукой бацькаў гузік.

— Што з хлапцом?

— Прастуда, відаць. Бач, гуляў на вуліцы ды пакупаўся з дзяцьмі ў канаўцы, мусіць і застудзіў вока. І пайшло яно пухнуць, што дзень, то болей...

— Чаму-ж не даглядалі за дзіцянём?

— Дзе там дагледзіш, калі працы хоць адбаўляй, а тут і жонка яшчэ хворая.

— Хворая?

— Так, хворая. Сухоты — дахтары кажуць.

— Чаму-ж ня лечыш?

— Як ня лечыш... Лечым і 'як яшчэ лечым, ды нешта карысьці мала, не ачуняе.

— Мо' і дагляду няма?

— Чаму няма? Яшчэ які дагляд, ні табе працы якой, ні табе што... Ну, вядома, жыцьцё наша звычайнае, ці-ж хочацца чалавеку бяз працы сядзець, без яе ня ўседзіш. Пачнуць кросны снаваць, ткаць — хіба сьцерпіць яна? Ніколі... Дый кожная праца так, а няволіць каб, дык няма гэтага... Дый ці я не чалавек, хіба сьвету ня бачыў, ці што, каб ня ведаць як рабіць, як да жонкі адносіцца. Не такі чалавек я, бач, у Францыі пяць год пабыў, пабачыў, як людзі жывуць і чым дыхаюць.

— У Францыі, кажаш, а чаго ты патрапіў туды?

— Вядома, чаго. Вайна. Яна нікога не прамінула. Ваяваў. А трэба сказаць, што пайшоў я на вайну ад маладой жонкі, толькі, толькі вясельле гулялі і думалі, бачыш, жыць. Таму і я малады быў, а жонка... ды што казаць.

Твар расказчыка хмурнее, маршчакі робяцца даўжэй і глыбей, выцьвілыя вочы нярухома ўзіраюцца кудысьці далёка, далёка, нібы хочуць працяць даўно мінулае, даўно пражытое, чаго ўжо ніколі ня вернеш, нічым ня вернеш, хіба толькі чалавечаю памяцьцю, дый то на момант.

— Маладая жонка мая і русавая... была. Маладзей мяне, а кахала даражэй за ўсё на сьвеце, бо пабраліся мы не як-небудзь там, а любячыся. І як любілі, любіліся. Бач, бацькі не хацелі аддаваць за мяне, бо была яна ў іх адна-адзінюткая. Але пайшла... Дзіцяці чакалі... Вайна падышла. І пагналі мяне. Спачатку пад немцам быў, потым пагналі ў Францыю. Вельмі нязручна было нам спачатку: ані слова сказаць з кім, ані пагаманіць, ні перагаварыць. Таму ты іх не разумееш і яны цябе. А горай за ўсё — точыць сэрца радзіма, не дае супакою. Здаецца, і людзі нішто, і жанчыны вясёлыя, і прыгожыя вопраткі, а ўсё ня тое. Бо чакаеш чагосьці, чакаеш радзіму пабачыць, свае родныя гоні... А там і жонка мая маладая... А тут яшчэ табе хоць-бы ліст, хоць-бы слова, і жывеш, як у поцемках. Калі і ёсьць у думках сьветлага, дык толькі жонка мая, ну, дзіцянё яшчэ.

Што казаць, быў сярод таварышоў грэх — зыходзіліся з жанчынамі францускімі; некаторыя і цяпер жывуць там, пажаніліся і жывуць сабе, мо' і нішто жывуць. А я не... Заўсёды ў думках яна стаяла: і ноччу, і днём.

Усё думаў: вось прыеду, вярнуся ў родную хату, пагляджу на русыя косы, абыйму, прыгалублю, дзіцянём уцешуся, зьвярну яму

з вялікіх краёў бацькаўскую ласку... І жонка, і радзіма... Валодае радзіма табой на чужой старонцы, па радзіме думы вянуць, а па мілай сэрца марнее і згасаюць надзеі, бо служба ня жарты: ні дзень, ні гадзіна — ніколі ня скажуць, калі і што...

І апанаваў сум сэрца тугою, ніяк не пазбавішся, і няміла табе ані Францыя, ані што — падавай дарагую радзіму.

Шэсьць год ня бачыў я хаты, ўрэшце паехаў...

Расказчык на хвіліну спыняецца, і наморшчыўшы лоб, сядзіць нярухома, углядаючыся ў полымя сьвечкі.

— Так, паехаў... У Расеі пешкі давялося ісьці, з цягнікамі пайшоў непарадак... Сёе-тое з сабой вёз. Як-жа, аб падарунках думаў, дый ці варта да хаты з чужога краю з пустымі рукамі варочацца. Вось і цяпер гарнітур на мне яшчэ францускай работы. Што і казаць і адзеты быў, і пры гадзіньніку... Усё думаў, як найлепей.

А справа была ўжо па восені. Памятаю, дажджы ішлі, прытаміўся ў дарозе я, але што там, калі падыходзіш да роднае хаты, тады ўтомы не адчуваеш, тады ногі самі імчаць, каб хутчэй данесьці цябе пад родныя стрэхі, да ўсяго, дый што казаць...

І чым бліжэй падыходзіў, тым болей замірала сэрца ў нейкай соладка-балючай стоме, і думамі быў ужо там... Калі-ж прышоў да роднага хутару, дык так авалодала ўсёю істотаю радасьць, што не пайшоў адразу ў хату, а сеў на ганак і так прасядзеў мо' гадзіну, мо' болей. Доўга сядзеў і ўглядаўся на ўсё: на двор, на хлявы, на тыя вароты, што ставіў сваімі рукамі, на кучаравыя бярозы пад вокнамі, на стары вулей, што дастаўся яшчэ мне ад дзеда, ды ці мала на што... І ў думках было: вунь, пахілілася шула адно — падпіраць трэба, раскідаўся плот — цяпер-бы жэрдзя з лесу, ды новы паставіць.

І многа чаго прадумаў за тую гадзіну. А галоўнае — вось сустрэну сваю маладую жонку, маладую жонку і русую, вось выйдзе яна на ганак, на плячох яе русыя косы, а ў вачох бязьмежная радасьць. Таму я зьвярнуўся, каханы муж прышоў з далёкіх краёў, каб жыць разам, не разлучацца. Дый каму ня міла спатканьне пасьля ростані і якой ростані — шэсьць год — ня шэсьць дзён, а ў чалавечым жыцьці іх на пальцах лічыш!

І доўга-б яшчэ сядзеў я. Але дзесьці ўжо засьпявалі пеўні. Устаў я, да вакна падышоў і старанна гэтак, і паціхеньку пачаў стукаць. Стукаю, а ў самога сэрца так і заходзіцца, нібы выскачыць хоча ад чаканьня, ад радасьці. І ціха ўсё, ціха, толькі вецер калмыча салому на страсе ды шалясьціць бярозавым лісьцем, раптам, чую, палаткі скрыпнулі — нехта па хаце пайшоў, да вакна падыходзіць пытае: „Хто там?“

Ня стрымаць мне сваёй радасьці, таму чую голас родны, голас жонкі маёй дарагой Луцэі.

— Адчыні, — кажу, — гэта я, прышоў вось, бачыш...

— Ды хто-ж такі?

— Не пазнаеш хіба, Луцэя? Гэта-ж я, пусьці хутчэй, дарагая.

Чую, адышла ад вакна, разьдзьмувае вугальле на загнетцы, запальвае лямпу, у сенцы ідзе. Бразнуў крук, праскрыпела закрутка, і нібы хто невядомы перанёс праз парог мяне. Уходжу ў хату. Ад радасьці ня бачу нічога, паклон б'ю.

— Здраствуў, — кажу, — дарагая жонка, сустракай доўгачака-

нага госьця, прымай ды мілуй, даўно ня бачыліся, не сустракаліся,— і іду да яе.

І вось дзіўлюся раптам. Адыходзіць яна ад мяне крок за крокам і вочы ў яе зрабіліся такімі шырокімі і цёмнымі, як якое бяздоньне глыбокае, як асеньняе неба ночнае, неба ня зорнае — толькі і агню ў іх, што ад лямпы той.

Раптам сумна мне стала, ня ведаю, што і рабіць, з чаго пачынаць. Стаў я пасярод хаты, апусьціў рукі, стаю, не зварухнуся, а сэрца чагосьці так сьцялася, нібы сьцяў яго хто абцугамі.

А яна ўсё далей і далей, у самы кут забілася і ўпіваецца ў мяне сваімі вачыма цудоўнымі, аж заваражыла нават імі, не крануся з месца ніяк.

— Луцэя, — кажу, — што з табою, гэта-ж я, твой, не пазнаеш хіба, дык хадзі-ж бліжэй, прыгледзься...

Бачу тут я, бялеюць вусны яе, азірнулася яна хутка-хуценька па хаце, страпянулася неяк, ды раптам як пакоціцца на падлогу — ледзь пасьпеў падтрымаць. Толькі прагаварыла:

— Божа, Божа, Рыгор прыехаў, што-ж рабіць мне цяпер, што думаць...

Паклаў я яе на палаткі, адышоў да стала, сеў, а што рабіць — не дабяру розуму. Сяджу, і здаецца мне, што зноў я малы, малы, як калісьці даўно-даўно, калі ганяўся па вуліцы за белагрудымі ластаўкамі. То бывала вясной. Лепяць ластаўкі гнёзды, над гразёю лятаюць, садзяцца дзе-небудзь над падсохлай лужынай, а ты і бяжыш, захапляе дух, вось-вось зловіш цудоўную птушку, што так хутка, прыгожа лятае па-над жоўтымі стрэхамі. Бяжыш, пасклізьнешся і рынешся ў гразь, а ластаўкі ўжо далёка-далёка, далей неба блакітнага і зялёных бяроз.

І мне здавалася, што зноў папаў я ў гразь і што тое прыгожае, тое недасяжна-далёкае, да чаго так імкнуўся я за шэсьць год, вылецела з-пад рук, уляцела кудысьці белагрудаю ластаўкай.

І так балюча зашчымела сэрца, бо пустэча авалодала ім, упаўзла ў яго нечым сьлізкім, халодным, ад чаго і прытульныя сьцены зрабіліся нуднымі, шэрымі, падобнымі на асеньні вечар. А тут дзеці заварушыліся — толькі тут і ўбачыў я іх, бо раней я глядзеў на Луцэю.

— Чые? Адкуль? — сьвідравала думка голаў.

Але ці ня ўсёроўна, і чые, і адкуль, бо ня ў гэтым справа, ня ў тым чые, і адкуль, а ў нечым другім... А ў чым другім — было цяжка дадумацца...

Так сядзеў я да раніцы, прыглядаўся, як цёмныя шыбы вакна рабіліся шэрымі, сьветлымі... Румзалі дзеці на палатках, уздыхала Луцэя, а я сядзеў і думаў, а мо' і ня думаў, бо што за думкі, калі ў сэрцы пустэча, ня думкі — нудота... Толькі раніцой заснуў я каля стала на лаве.

І жыву вось цяпер... адно званьне толькі... ня жыву, а мадзею. Кахаю... а няма супакою і на сэрцы камякі халодныя. Ведаю, не кахае яна мяне, не мае на палатках дзеці і няма агню, цудоўнага агню ў дарагіх вочах, хоць і ветлівы зірк ад іх. У іх больш жалобы, непазнанага суму... А аб чым — ці ты-ж зразумееш. Бачу хвор у іх, безнадзейнасьць... Хварэе цяпер, па дахтарох вазіў — нічым не пасобіш, сухоты, кажуць, ні то прастудзілася... Злыя языкі чэшуць —

нібы ад зьдзекаў усё, нібыта б'ю я Луцэю. А ці можа-ж быць гэта, ці такі чалавек я, каб гэта біць, ці што... Не, мусіць другое тут нешта..." А ўсё з таго вечару...

— А ты-б разьвёўся і ўсё тут. Вось у мяне браценьнік маладзейшую яшчэ кінуў і з дзіцёнкам, а цяпер узяў другую, і жывуць, і яшчэ як жывуць, — дадае нечакана маладая рухавая кабеціна, якая прагна лавіла кожнае слова расказчыка.

Карыя выцьвілыя вочы на хвіліну спыняюцца на яе твары, узіраюцца жорстка. Маўчыць, раздумвае, потым кажа паволі:

— Як вам сказаць, аднаму адно падабаецца, другому другое... а крадзеным шчасьцем жыць я ня зьбіраўся ніколі, бо многа... многа ім не нажывешся...

— Яно так, праўду кажучы, так. Ня кожнаму чалавеку дана зьлязаць на кожнай станцыі. Гэта да прыкладу я кажу. Вось у мяне далёкі білет, трэба ехаць з ім, і ногі ныюць, і косьці, адпачыць-бы хацелася, але што зробіш — павінен ехаць — далёкі білет у цябе. А шчасьце што — той-жа білет, як ні едзеш, а можа і даедзеш..

Гэта кажа, прачнуўшыся дзядок. Ён крэкча, пачэсвае сьпіну, шапялявіць крыху, і шчасьце ў яго выходзіць „сцасьцем". Ніхто не адказвае яму, дый каму гаварыць ахвота, калі патухлі ўжо і недагаркі над дзьвярыма, пасьвятлелі вокны і ў іх згінулі вячэрнія сьветлякі. То іскры хаваюцца ў сонечных праменьнях, меркне бляск іх у сонечным зьзяньні. У расчыненыя дзьверы падзьмула сьвежым холадам раніцы, і заспаны, сіпаваты голас будзіць цёплы вагонны змрок:

— Грам-м-адзяне, прад'явеце ва-а-шы білеты...

Застукалі колы на стрэлках, мякка захістаўся вагон то ўлева, то ўправа — цягнік падыходзіў да станцыі.

**М. Лынькоў.**

---

АНАТОЛЬ ІВЭРС

## МАЛЮНКІ.

Балота, балота
і песьня як рунь —
цьвіце пазалотай
мая Беларусь.

А там — пералівы
і золата сінь,
скажы, мая ніва,
чым доўг аддасі?

Ці зернем зьвінячым,
ці песьняй палос,
дзе голас маячыць
пад шэрым сялом?

І коцяцца хвалі
па сівых жытох.
Жыцьцё не пахвалім,
што кінуў нам хтось.

Чаму-ж не паверыць
ў агні, што мігцяць,
што зьменіцца шэры
парадак жыцьця?

Малюнкі — малюнкі
па ўсей старане
Ў сасоньніках стрункіх
разбрызгана медзь.

Ў алежынах цёмных
сінее сіта. —
Там шолах таёмны
мяне прывітаў...

Іду на дарогу
у сонечны дым,
хай зьбітыя ногі
плятуцца кудысь...

# Гісторыя культуры.

## УВОДЗІНЫ.

Сьмерць, здаецца, пануе на сьвеце: паміраюць паасобныя людзі, гінуць і цэлыя народы. На зьніштожаньне, быццам, засуджана і вялікае і малое. На што-ж тады памяць аб мінулым, тое, што завецца **гісторыяй?**

Справа ў тым, што ня ўсё на сьвеце гіне й памірае. Астаюцца й перадаюцца з роду ў род **палепшаньні.** Палепшаньні могуць быць самыя розныя: і лепшая сельска-гаспадарчая прылада, і лепшы спосаб абрабляньня поля, або вырабу скуры, і больш дасканалая барацьба з хваробамі, і лепшае выкарыстаньне сілаў прыроды, і лепшы спосаб грамадзкага сужыцьця, і многае іншае. Людзі, знайшоўшыя гэтыя палепшаньні, можа даўно паўміралі, нават ніхто ня помніць іхных імёнаў, але палепшаньні асталіся. Усе вынаходы, адкрыцьці, навіны чалавецтва, накіраваныя на падтрыманьне і рост яго моцы, і складаюць тое, што завецца **культураю.**

У аснове культуры заўсёды ляжала і ляжыць **праца** ўмысловая і фізычная, праца карысная, творачая новыя вартасьці. Кожны, у каго ёсьць моцная воля і разумны азначаны пагляд на жыцьцё, творыць культуру. За бязлічнымі варштатамі працуюць усе народы, вялікія і малыя, творачы агульную справу — культуру. Ні на хвіліну ня спыняецца гэтая праца чалавецтва. **Культура — вялікі працоўны каапэ эатыў.**

Працаю і ўменьнямі сваімі і ўсіх іншых людзей, як цяпер існуючых, так і даўно памёршых, як блізкіх, так і далекіх, жывём і мы цяпер.

Пісьменасьць і альфабэт прышлі да нас з Усходу; ад старадаўных Грэцыі і Рыму ідуць многія мастацтвы і навукі, асабліва веды грамадзкія; арабы, некалі слаўныя і магутныя, шмат папрацавалі над матэматыкай, мэханікай, фізыкай, хіміяй. Кітай прынёс у Эўропу компас, паперу, порах. Індыя навучыла выраблядь тканіны; нават дзікары Амэрыкі далі нам такія важныя рэчы, яз лек. хініну, каучук (гума) і інш. А колькі цяпер штодня зьяўляецца па ўсім сьвеце новых адкрыцьцяў і вынаходаў у розных галінах навукі і тэхнікі! І ўсё гэта праз зусім кароткі час ужо робіцца уласнасьцю ўсяго культурнага чалавецтва. **Культура ня ведае адлегласьцяў між людзьмі і народамі,** як ня ведае і розніцы між імі.

Новыя думкі, веды, уменьні прыходзяць на зьмену старых, менш дасканалых; благое зьмяняецца добрым, а добрае яшчэ лепшым. **Культура увесь час расьце.** Ня можа яе стрымаць назаўсёды або задушыць нават самае страшнае зло на сьвеце — вайна. Хто, напрыклад, да апошняй усясьветнай вайны думаў аб атрутных газах, самалётах, складаных самаходах, аб радыё і інш. Вайна ўсё гэта стварыла. І нішто не прапала дарма, ўсё выкарастана культураю. Газамі трутяць лясных і палявых шкоднікаў, самалёты возяць пошту і пасажыраў, пракладаюць новыя шляхі зносін між людзьмі, а танкі ператвораны на трактары і г.д. **Культу а несьмяротная.**

Малюнак гэтага безперастаннага панаваньня над сьмерцяй і дае **гісторыя культуры.** Яна гаворыць аб той працы, якую прарабіла чалавецтва, каб з нізкага дзікага стану падняцца да такога, ў якім яно знаходзіцца ў сучасную пару; яна гаворыць аб яго ўдачах і пе-

рамогах, але аб такіх, ад якіх ня пахне крывёю сьлязьмі. Таму й героі яе адумысловага складу: людзі працы ўмысловай і фізычнай, часта самавукі, скромныя, ня крычачыя аб сабе й сваіх заслугах. Многа, надта многа, гэтых ціхіх герояў культуры, але ведаем мы толькі нязначную частку іх. Ад рэшты не асталося нават імёнаў. Хто, напрыклад, першы расклаў агонь? Хто першы пачаў карыстацца лукам і стрэламі?

Хто выдумаў альфабэт і пісьменнасьць? Хто першы прыручыў жывелаў? Невядома. Ня ведаем мы першых лекароў, інжынэроў і г.д. Але іхнюю працу і пашырэньне гэтай працы мы прасачыць можам. Гэта і ёсьць гісторыя культуры!

## ПАХОДЖАНЬНЕ КУЛЬТУРЫ.

Калі і дзе ўзнікла культура? Хто быў першым культурным чалавекам на зямлі? Гэта пытаньні, на якія цяжка адказаць. Многа, вельмі многа тысячагодзьдзяў аддзяляе нас ад таго часу: зьмяніўся ад тэй пары самы выгляд зямлі. Можа нават першая бацькаўшчына першага культурнага чалавека ў выніку зямных перамен зьнікла пад вадою. Адно толькі вядома: **на зямлі было некалькі асеродкаў паходжаньня культуры,** і першыя культурныя людзі на зямлі зьявіліся ў розных мясцох зямное кулі.

У тыя часы, калі чалавек толькі што зьявіўся на зямлі, ён яшчэ ня быў чалавекам культурным. Ён поўнасьцю залежыў ад прыроды і меў толькі тое, што прырода яму самахоць давала. Самастойна дастаць што небудзь чалавек яшчэ ня мог, бо **ня ўмеў нават думаць.** Ня было ў яго ні жыльля, ні адзежы. Еў ён тое, што знаходзіў навокал сябе і што мог схапіць голымі рукамі. Ня умеў ён і гаварыць— уся мова ягоная напэўна складалася толькі з гукаў, як ў жывелаў або птушак. Духова гэты чалавек стаяў трохі вышэй за жывёлаў. Нават з вонкавага выгляду ён моцна розьніўся ад сучаснага чалавека.

Аднак, паступова расьлі духовыя сілы чалавека, а разам з тым выраcталі й яго патрэбы. Ён **пачаў ужо думаць.** У першую чаргу жыцьцё змушала яго думаць, як яму зрабіцца больш незалежным ад прыроды ў барацьбе за існаваньне і як лягчэй здаволіць свае жыцьцёвыя патрэбы. Хутка ён дадумаўся, што для гэтага яму неабходна або мірна зжывацца з прыродаю, або змагацца з ёю. А й тое і другое магчыма толькі тады, калі чалавек працуе. І ён пазнаў працу. Вось жа **першым культурным чалавекам на зямлі й можна назваць такога, які пачаў працаваць галавой або рукамі.**

## РОСТ І ЗАНЯПАДЫ КУЛЬТУРЫ.

Нарадзіўшыся культура ня толькі захавалася, але й пачала разьвівацца. Розныя абставіны складаліся на яе рост і ад розных прычын залежала яе разьвіцьцё. Але галоўныя з іх гэта — 1) **Адносіны аднаго народу да іншых** і 2) **Стан культуры народу на пэўным адрэзку часу.**

**Адносіны між народамі** могуць быць або **варожыя** або **мірныя.** І тыя і другія маюць уплыў на рост культуры. Няраз посьле перамогі аднаго народу над другім, іх культуры набывалі іншы выгляд. — Яны пераймалі адны ад другіх культурныя вартасьці, аж у канцы вы-

шэйшая культура дасагала поўнага панаваньня. Нават, пазнаёміўшыся ў часе самой вайны з іншымі народамі, іх жыцьцём, ладам, іх светапаглядам, людзі, вярнуўшыся дамоў, прынасілі на бацькаўшчыну шмат карыснага. Трэба аднак падчыркнуць, што разам з тым, з вайны прыносілася ня мала й шкоднага—хваробы, дэмаралізацыю і т.п. Яшчэ больш, зразумела, памагалі росту культуры мірныя зносіны між людзьмі. Культурныя здабычы таго ці іншага народу мірнымі шляхамі паступова пашыраліся на іншых землях, сярод іншых людзей. Але й мірныя зносіны, як і варожыя, маюць таксама і свае цёмныя бакі: напрыклад, нявольніцкае падражаньне чужому тармазіла часта самастойнае разьвіцьцё культуры ўласнай.

На рост культуры ўплывае й самы **стан культуры**. Разьвіваючыся сама, культура разьвівала й умацоўвала духовыя сілы чалавека, пашырала яго сьветапагляд, выклікала больш шырокія патрэбы. Тое, што раней і ў галаву ня прыходзіла, потым, дзякуючы здабычам у той ці іншай галіне, рабілася магчымым. А гэта з свайго боку прыводзіла да вынікаў, якія заахвочвалі і папіхалі да новых натугаў. Часта праходзіла шмат часу, пакуль дасягаліся самыя нязначныя вынікі. Але часта ізноў-жа раптам адбываўся быццам творчы выбух і вынікі яго на працягу некалькі гадоў тварылі для культуры тое, на стварэньне чаго раней патрэбныя былі-б стагодзьдзі.

Аднак, у росьце культуры бываюць і **застоі** і **заняпады.** Найчасьцей бывала так, што які колечы народ, адгарадзіўшыся высокімі мурамі ад народаў іншых, пачынаў разьвіваць сваю культуру аднабока, г. ё. накіроўваць увагу толькі на адны, якія колечы яе галіны і пакідаць бяз увагі галіны іншыя. Гэтыя пакінутыя галіны з часам як быццам абміралі і тым самым зьяўляліся перашкодаю для росту культуры ў цэлым. Напрыклад, пагоня толькі за палепшаньнямі матэр'яльнай культуры шкодзіла духоваму ўдасканаленьню гэтага народу і наадварот—нядбаньне аб матэр'яльную культуру прычынялася да застою ўва ўсёй яго культуры.

Такім чынам рост культуры нельга намаляваць, як нейкую простую лінію, што бязупынна, ад першага пачатку да сучаснае пары падымаецца ўгару. Гэтая лінія йдзе зыгзагамі, ламаючыся, абрываючыся,. іншы раз спушчаючыся ўніз. Але ўсёж, агульна бяручы, яна усьцяж падымаецца ўсё вышэй і вышэй.

## ПААСОБНЫЯ ГАЛІНЫ КУЛЬТУРЫ.

З мноства галін складаецца дрэва культуры. Але пры знаёмстве з ім нам кідаюцца ў вочы перш за ўсё дзьве галоўныя галіны: **Матар'яльная культура** — тэхніка, гаспадарка (прамысловасьць і гандаль), спосабы і шляхі лучнасьці, і **духовая культура**—навука, прасьвета, мастацтва, літаратура, маральнасьць, грамадзкае і дзяржаўнае жыцьцё, звычаі, права, рэлігія. Гэта ня знача, што духовая культура можа абыйсьціся бяз матар'яльнай асновы, або матар'яльная бяз псыхічнай дзейнасьці. Усе, самыя розныя, нават найдрабнейшыя галіны культуры, праходзячы адна ў другую, жывуць узаемна ўплываючы. Напрыклад роўня веды, рэлігійны светагляд, маральныя законы, грамадзкі лад і палітычныя падзеі ўплываюць на гаспадарчы лад і, наадварот, — экономіка накіроўвае ў той ці іншы бок навуковыя досьледы, мастацкую творчасьць, грамадзкія і палітычныя пераваро-

ты. **Адасабненых галін у культуры няма.** Аднак, для большай яснасьці мы будзем прытрымлівацца падзелу культуры на матар'яльную і духовую, разглядаючы іх побач у розных народаў у чарзе іх узьнікаńня.

## КРЫНІЦЫ ГІСТОРЫІ КУЛЬТУРЫ.

Калі мы хочам што колечы ведаць аб нашай мінуўшчыне, нам трэба зварочвацца да **агульнай гісторыі**, якая пазьбірала і захавала ўсё тое, што людзі калі-небудзь напісалі аб жыцьці і звычаях народаў. Але-ж людзі жылі на зямлі доўга да таго, як яны дадумаліся да пісьменых знакаў. Скуль-жа мы можам даведацца аб жыцьці гэтых даўнейшых людзей? На гэта прыходзіцца адказаць, што апрача вестак, якія падае гісторыя, дасьледчыкам гісторыі культуры трэба яшчэ карыстацца тым, што захавала у сваіх нетрах зямля. Робячы раскопкі і разглядаючы слаі зямлі можна даведацца аб тых зьменах, якія адбываліся на самой паверхні зямлі, а апрача таго й знайсьці рэчы, якія сьведчаць аб жыцьці людзей у так званыя „дагістарычныя часы". У рачных наносах і вазёрах, у магільніках і курганох, у замчышчах і пячорах выкапана бяз ліку рэчаў, якімі карыстаўся калісь чалавек і якія былі зробленыя яго рукамі. Для дасьледаваньня і вывучаньня слаёў зямлі і гэтых астаткаў мінуўшчыны, зьявіліся у XIX стагодзьдзі нават асобныя навукі — **геолёгія** і **археолёгія**. Першая вывучае будову зямлі, як грунту, і яе жыцьцё, а другая — астаткі рэчаў, зробленых чалавекам. Гэтыя дзьве навукі быццам чытаюць кнігу зямное кары, дзе пласты грунту служаць старонкамі, а акамянелыя астаткі расьлін і жывёл, прылады, аружжа і г. д. заступаюць літары.

Аднак, для гісторыі культуры помачы геолёгіі і археолёгіі яшчэ замала, бо на падставе выкапаных рэчаў можна даведацца аб абставінах жыцьця чалавека, але нельга мяркаваць аб яго духовым стане, нельга даведацца якая у яго была сям'я, які грамадзкі лад, як вырашаліся спрэчкі, якім багам маліліся і як сьвяткавалі сьвяты і г.д. Каб даведацца аб гэтым, трэба на помач браць яшчэ адну навуку, якая завецца: **этнолёгія**. Этнолёгія вывучае жыцьцё і звычаі сучасных людзей, нават такіх, якія ў сваім культурным разьвіцьці асталіся далёка ззаду, г. ё. дзікіх народаў. Вось-жа, раўнаючы выкапаныя прылады і аружжа дагістарычных людзей з тымі рэчамі, якія цяпер яшчэ ужываюцца дзікарамі Аўстраліі, Афрыкі і Амэрыкі, кідаецца ў вочы іх вялікая падобнасьць. А гэта дае падставу думаць, што грамадзкі лад, рэлігія, звычаі і паняцці сучасных дзікароў і дагістарычнага — цяпер культурнага — чалавека былі амаль аднолькавыя.

Апрача гэтых навук для высьвятленьня гістарычнае пары гісторыі культуры трэба карыстацца яшчэ выводамі географіі, прыродазнаўчых навук, псыхолёгіі народаў, мовазнаўства, гісторыі рэлігіі, літаратуры, мастацтва, статыстыкі і сацыяльных навук. Нельга, зразумела, адкідаць і весткі аб разьвіцьці тэхнікі. Толькі маючы гэтых памочнікаў можна дакладней разглядзець той даўгі шлях, які прайшло чалавецтва ў сваім культурным паходзе наперад.

**Ул. Пігулеўскі.**

# Беларускі арганізаваны рух ў Варшаве.

Жыцьцё ўсьцяж прыносіць нам на зьмену весткі сумныя і радасныя; з іх пераплёту і складаецца нашае паваеннае беларускае жыцьцё. Адным з такіх радасных зьявішчаў ёсьць факт, што беларусы ўсюды стараюцца арганізавацца ў свае беларускія арганізацыі.

У гоне за хлебам, за асьветай, многа нашых братоў пашло „у прочкі" з роднай зямлі. Расьцярушыліся, рассыпаліся яны на цэлым сьвеце аж за моры, за акіяны.

Але цяпер ужо нашыя браты ня губяцца паміж чужымі людзьмі, як людзі бяз імені, бяз сваей зямлі, бяз бацькаўшчыны, а склікаюцца, арганізуюцца, лучацца ў адну сваю сям'ю — у беларускую арганізацыю. Голас супольнай крыві, мовы і долі, пачуцьцё лучнасьці з родным краем, пачуцьцё патрэбы ўсім і ўсюды рупіцца, думаць аб лепшай будучыне народу — яднае ўжо ўсюды ўсіх беларусаў. Дзе-б ня былі закінутыя, дзе-б далёка ад роднага Краю не спаткаліся — спатыкаюцца заўсёды як людзі аднэй сям'і, як дзеці аднэй маткі.

Аб гэтым сьведчыць і гісторыя беларускага арганізаванага жыцьця ў Варшаве, якую тут падаём.

---

Гісторыя беларускага культурнага руху ў Варшаве недалёкая. Мова тут толькі аб руху арганізаваным, бо незалежна ад гэтага беларусы былі ў Варшаве з даўным—даўна. Рух арганізаваны распачаўся ў 1915 годзе, калі аднаўляецца Варшаўскі Унівэрсытэт і сярод студэнтаў гэтага Унівэрсытэту закладаюцца гурткі студэнтаў беларусаў. Гэтыя гурткі былі мала лічныя і мелі характар больш таварыскі, а з грамадзкім жыцьцём беларусаў ня былі ў цясьнейшай лучнасьці. У сувязі з гэтым і іх праца мела малыя вынікі. Посьле, у 1919 годзе арганізуецца ў Варшаве „Беларускі Камітэт", каторы гуртуе навакол сябе пэўную групу сьвядомых беларусаў, каторыя стараюцца арганізаваць усіх беларусаў у Варшаве, а ў першую чаргу беларускіх работнікаў. „Бел. Камітэт" выпісвае ўсе беларускія часапісы і газэты, а таксама і кніжкі, з якіх арганізуе бібліятэку. Трэба адзначыць, што актыўным сябрам „Бел. Кам." быў наш паэта Гальляш Леўчык (Ляўковіч). Нажаль „Бел. Камітэт", ня споўніўшы сваіх заданьняў з прычын ад яго незалежных, у 1922 годзе разьвязваецца. Посьле, на некалькі гадоў, беларускі арганізаваны рух у Варшаве заміраэ. Заміраэ не таму, што ня было тут беларусаў, але заміраэ з прычыны цяжкіх абставінаў, у якіх ён знаходзіўся. Было гэтак да 1929 г., калі ў Варшаву ўсё больш і больш пачало наплываць сьвядомай беларускай студэнцкай моладзі, каторая ў 1930 годзе арганізуе „Саюз Беларускіх Студэнтаў у Варшаве". „Саюз Бел. Ст." ужо апіраецца на мацнейшых падставах і на шырэйшай плятформе працы. Праўда, „Саюз Бел. Ст." не знаходзіць шырокага водкліку сярод беларусаў у самой Варшаве, але затое мае большую лучнасьць з беларускім сялянствам. У гэты час ніхто нават і ня думаў, што ў Варшаве ёсьць вялікая маса беларусаў, як работнікаў, так і інтэлігенцыі. З гэтай прычыны праца культурнага характару ў „С. Бел. Ст." вялася толькі сярод самых студэнтаў, якіх было асоб каля 30-ці. Але з часам „С.

Бел. Ст.“ пачынае дзейнасьць у шырэйшай форме і навязвае лучнасьць з „Беларускім Студэнцкім Саюзам“ у Вільні і культурнымі беларускімі арганізацыямі. Разумеючы ўсе патрэбы нашага народу, асабліва з боку культурнага—наш „Саюз Бел. Ст.“ пастанавіў у 1932 г. выслаць аднаго лектара, разам з калегамі „Бел. Ст. Саюзу“ у Вільні, у Беласточчыну, дзе яны за месяц часу прачыталі цыкль папулярных лекцыяў, вялі курсы для дарослых у Беластоку. Навязалася лучнасьць з грамадзянствам Беласточчыны, якое было для нас вельмі, а вельмі ўдзячнае. Посьле ўрад „Сяўбы“ у Беластоку запрасіў нашага сябру прачытаць лекцыю з Бел. літаратуры. Лекцыя адбылася на агульным сходзе „Сяўбы“, дзе грамадзянства Беласточчыны сабралося, каб супольнымі сіламі абгаварыць свае балячкі, як культурныя, так і матар'яльныя. Наш пачынак працы сярод Беларускага народу знайшоў водгук ня толькі сярод сяброў „Т. Б. Ш.“ і „Сяўбы“, але сярод усяго грамадзянства Беласточчыны, ад якога наш „Саюз Бел. Ст.“ атрымаў беларускую бібліятэку, за што складаем тут яму шчырую падзяку. Кніжкі з бібліятэкі пашлі ў ход сярод нашых сяброў, пачалося вывучэньне беларускае літаратуры, гісторыі і наагул жыцьця беларускага народу. Посьле супольна з сябрамі „Бел. Ст. С.“ у Вільні, сябры нашага саюзу ладзяць лекцыі, рэфэраты, прадстаўленьні і гурткі музыкальныя ў Наваградчыне, асабліва ў гмінах Нягневіцкай, Карэліцкай, Шчарсоўскай і Любчанскай.

У гэтым найбольш працы і энэргіі ўлажыў памёршы ў 1933 г. Пятро Пяршукевіч—сябра „Бел. Ст. С.“ у Вільні і найлепшы супрацоўнік сяброў „Саюзу Ст. Бел.“ у Варшаве. Трэба яшчэ дадаць, што ў 1933 г. студэнты супольнымі сіламі пачалі выдаваць беларускую газэту ў Варшаве п. наз. „Першы Крок“, каторая, нажаль, была сканфіскавана ўладамі. Але ў той час, калі нашая Ст. моладзь супольна з народам пачала шырокую працу на беларускіх землях,—прыходзяць новыя акадэміцкія ўставы. У той час калі „С. Бел. Ст.“ пачаў гуртаваць навакола сябе большую грамаду Ст. моладзі, атрымліваем у 1933-34 школьным годзе, ад уладаў унівэрсытэцкіх пісьмо аб рэарганізацыі Саюзу, гэта значыць: зьліквідаваць Саюз, як арганізацыю міжшкольную, а залажыць толькі ў аднэй школе. Гэтага мы не маглі зрабіць бо нашая арганізацыя ня гуртавала моладзь толькі аднэй школы, а ўсіх Варшаўскіх, як Унівэрсытэт, Палітэхніка, Вышшая Гаспадарская Школа, Галоўная Гандлёвая Школа, Консэрваторыя і др. Яшчэ трэба памятаць, што новая акадэміцкая ўстава дазваляла тварыць арганізацыю на аднэй школе з азначаным лікам студэнтаў, а іменна найменш 20 асоб, чаго мы ня маем на ніводнай вышшай школе. Вось з якіх прычын наш „С. Бел. Ст.“ разьвязаны.

Як бачым ізноў прышоў час, калі беларусы асталіся бяз арганізацыі ў Варшаве; але гэты час быў кароткі. Дзякуючы старэйшаму грамадзянству, як праф. Казуры, Гапановічу, Ластаўцы і памёршаму нядаўна адвакату Бычкоўскаму, і студэнцкай моладзі, ў 1936 годзе складаецца ўладам Статут „Беларускага Культурнага Т-ва“. Характар гэтае арганізацыі быў, як бачым з назову, культурны. Гэтая арганізацыя ўжо мела апору ў шырокіх масах беларусаў у Варшаве, бо з гэтага часу навязваецца лучнасьць студэнтаў з беларусамі інтэлігентамі і работнікамі, якія шукаючы кавалка хлеба завандравалі ў Варшаву. Дзейнасьць гэтага Т-ва мелася быць на ўсю Рэчпаспалітую, гэта значыць, што Т-ва мела-б права адчыняць аддзелы і філіі на беларускіх землях з цэнтраляй у Варшаве. Гэта было якраз у той час,

калі культурны рух у Вільні быў у сумным палажэньні і гэтая вестка дайшла да беларусаў у Варшаве. Пасьле доўгага часу надышоў адмоўны адказ ад Камісарыяту Ўраду, які быў матываваны тым, што такой беларускай арганізацыі ня можа дазволіць у Варщаве з прычыны малой колькасьці беларусаў у сталіцы. Між іншым было зазначана, што такую арганізацыю можам залажыць толькі ў гарадох на землях этнаграфічна заселяных беларусамі. У гэтай справе арганізацыйная камісія ўпаважніла сяньня памёршага адв. Бычкоўскага злажыць рэкурс да Міністэрства Нутраных Справаў, але загад Міністра нічым ня розьніўся ад загаду Камісара Ўраду ў Варшаве. Прышлося пісаць другі статут—ужо „Асьветнага Т-ва Беларусаў у Варшаве" — на правах звычайных і злажыць 23-XII. 37 г. у Стараства. Прачакаўшы азначаны правом час (4-ы тыдні) „Асьв. Т-ва Бел." распачало сваю дзейнасьць. Дзейнасьць нашага Т-ва аграпічваецца толькі абшарам Варшавы.

Як бачым з вышэй сказанага, беларускі арганізованы рух у Варшаве таксама меў многа труднасьцяў і перашкод, але закончылася ўсё гэта добра. Цяпер астаецца толькі кінуць заклік да ўсіх Беларусаў у Варшаве, каб запісываліся да свае роднае культурнае арганізацыі і падтрымлівалі яе, як з боку дзейнай працы, так і матар'яльна. Трэба памятаць, што ў арганізацыі і еднасьці сіла, што мы, як народ, мусім падняць свой культурны ровень на культурнае ўзвышша іншых цывілізаваных народоў.

**М. Орса.**

---

# Палітычныя зьмены ў Сярэдняй Эўропе.

**„Аншлюс" Аўстрыі да Нямеччыны і польска-літоўскае замірэньне.**

Найвыдатнейшым, бязспрэчна, здарэньнем за апошні час ёсьць маланкава-хуткае далучэньне Аўстрыі да Нямеччыны. На вачох усей Эўропы дый і Лігі Нацыяў адбыўся чарговы захоп поўнапраўнага сябры Лігі і скасаваньне яго дзяржаўнай незалежнасьці, „гарантаванай" і Лігай і спэцыяльнымі актамі паасобных вялікіх дзяржаў. Вялікія дзяржавы гэтак зьбянтэжаны гэтым фактам, што нават і не падумалі аб тым, каб Ліга Нацыяў хаця-б дзеля прызваітасьці выказала протэст проці зробленага над яе сябрам гвалту. Трэба прызнаць, аднак, што Гітлер правёў свой захоп з задзіўляючым спрытам, які робіць ролю Лігі Нацыяў даволі цяжкай. Захапіўшы сваей моторызаванай арміяй Аўстрыю, Гітлер змусіў прэзыдэнта назначыць пакорны яму, Гітлеру, новы ўрад, які, пасьле захопу, „прызваў сам на помач" нямецкія войскі... Пасьле сам прэзыдэнт абвясьціў „дабравольнае" далучэньне Аўстрыі да Нямеччыны, а яшчэ пасьле самога прэзыдэнта змусілі да адрачэньня. Такім чынам скасавана была Аўстрыя, як асобная дзяржава, стаўшыся толькі правінцыяй нямецкага гаспадарства.

**Зьмена палітычнае раўнавагі ў Эўропе.** Далучэньне Аўстрыі да Нямеччыны паважна зьмяняе так званую „раўнавагу" у Сярэднай Эўропе, а праз гэта і наагул у Эўропе. У цэнтры Эўропы стварылася 75-мільённая дзяржава, найвялікшая ў ёй пасьле СССР ня толькі

мілітарнай сілай, але і колькасьцю насяленьня. Гэтым актам Нямеччына ня толькі цалком пакрыла страты, якія мела ў выніку вайны, але яшчэ і дастала добры „барыш“ і тэрыторыяй і насяленьнем. Палітычнае і гаспадарчае значэньне гэтага факту для ўсей Эўропы — вялізарнае. Не займаючыся дэталічнымі развашаньнямі, пакажам толькі на тое, што Нямеччына зрабілася цяпер беспасярэднім суседам блізу паўдзесятка дзяржаваў, што робіць торговыя зносіны вельмі для яе выгоднымі. А гэта, ясна-ж, ня можа не адбіцца і на палітычных умовах Нямеччыны ў гэтых суседніх дзяржавах.

**Чаму Эўропа маўчала?** Ніводная дзяржава не перашкодзіла Нямеччыне ў яе аўстрыяцкай акцыі. Можна запытацца: чаму гэта так сталася? Чаму, прыкладам, Францыя, для якой найбольш небясьпечна такое ўзмацненьне Нямеччыны, не зрабіла ані кроку, каб захаваць „эўрапейскую раўнавагу“? На гэта адказ кароткі. Таму, што цяпер стратэгічнае палажэньне Нямеччыны адносна Францыі рашуча зьмянілася на карысьць Нямеччыны.

Яшчэ нядаўна — у выніку ваеннага разгрому Нямеччыны — стварылася такое палажэньне, што нямецкая граніца—ўдож Рэйну— была адчынена для Францыі, а французская граніца была зачынена для Нямеччыны. Гэта таму, што Нямеччына — паводле Вэрсальскага трактату—была пазбаўлена права будаваць укрепленьні на сваёй граніцы, а Францыя, наадварот — зараз-жа посьле вайны пабудавала ўдоўж нямецкай граніцы знамянітую „лінію Мажыно“, гэта значыць— цэлую вялізарную сыстэму падземных жалеза—бэтонных укрепленьняў, якая зусім не дае магчымасьці прарвацца з Нямеччыны, нават пры дапамозе сучаснай артылерыі, праз граніцы Францыі. Апроч таго, ведамая сыстэма ваенна-палітычных саюзаў Францыі з Бэльгіяй, Чэхаславакіяй, Польшчай і Румыніяй, замкнула на замок зусім Нямеччыну і з Захаду, і з Усходу, робячы яе зусім ня грознай для Францыі, каторая трымала ключ ад гэнага замка ў сваей кішані. Апроч „лініі Мажыно“ Францыю аддзеляў ад Нямеччыны яшчэ так званы „здэмілітарызаваны пояс“ зямлі, на якім Нямеччына ня мела права трымаць войска.

Цяпер усё зьмянілася грунтоўна. Нямеччына заняла вайскамі „нейтральны пояс“, пабудавала ўдоўж французскай „лініі Мажыно“ сваю, яшчэ мацнейшую „лінію Гітлера“, пазбаўляючы Францыю магчымасьці зрабіць „марш на Бэрлін“, таксама як „лінія Мажыно“ пазбаўляла Нямеччыну магчымасьці „маршу на Парыж“. Што датычыць Бэльгійскае „брамы“, праз якую, як ведама, прайшло Нямецкае войска ў 1914 г., дык у выніку Вэрсальскага міру магчымасьць легальнага праходу праз яе дадзена была толькі Францыі, дзякуючы саюзу з Бэльгіяй; цяпер і тутака Нямеччына зрабіла тое-ж самае, што з „лініяй Мажыно“: перарабіла яе на абодва бакі. Пад націскам Нямеччыны Бэльгія адмовілася ад таго пункту саюзу з Францыяй, які даваў апошняй права пераходу праз бэльгійскую тэрыторыю ў выпадку вайны з Нямеччынай.

Блізу тое-ж самае зрабіла Нямеччына і сваімі „пактамі“ з Польшчай і Румыніяй: абедзьве гэтыя дзяржавы здабылі „поўную самастойнасьць для сваей палітыкі, якая мае кіравацца толькі і выключна ўласнымі інтарэсамі“. У выніку гэтага былыя „франкафільскія“ міністры Польшчы і Румыніі павыходзілі ў адстаўку, а былі заменены больш-менш выразнымі „германафіламі“. Такім чынам Францыя ў знач-

най меры страціла былую апору для сябе на ўсходзе на выпадак канфлікту з Нямеччынай. Прыкладам, Румынія ня так даўно блізу згаджалася ў такім выпадку прапусьціць войска чацьвертага саюзьніка Францыі на ўсходзе — СССР. А вось цяпер і гэтай апоры Францыя—ў выніку зьмены румынскай арыентацыі—ўжо ня мае. Да ўсяго далучылася й аслабленьне ваеннай моцы СССР ў выніку апошніх маскоўскіх працэсаў.

Усё гэта разам узятае зложылася на тое, што Нямеччына зрабілася яшчэ перад „аншлюсам" наймацнейшай дзяржавай ў Эўропе, дый магла рабіць усе тое, што лічыла для сябе патрэбным не аглядаючыся на Францію, а нават на Англію. Бо-ж—проці Англіі Нямеччына зьвязалася знамянітым „трыкутнікам" — з Італіяй і Японіяй, каторыя зашахоўваюць Англію ў найбольш балючых месцах яе вялізарнага сусьветна-дзяржаўнага арганізму. Далучэньне Аўстрыі, толькі далей павялічвае гэтую моц Нямеччыны.

**Польшча і Літва.** Цесна зьвязана з „аншлюсам", як сьцьвярджае гэта сама польская прэса, толькі што наладжанае польска-літоўскае „зблізкэньне". Польшча, як пісаў адзін з польскіх публіцыстаў, не магла астацца бязьдзейнай у той мамэнт, калі яе заходні сусед гэтак раптоўна узмацаваўся: трэба было за ўсякую цану так сама неяк выраўнаваць парушаную раўнавагу. Вынікам гэтага была вострая „дыплёматычная" акцыя (у форме ультыматуму), падтрыманая пагрозай заняцьця Літвы польскім войскам. Слабая мілітарна Літва мусіла згадіцца на дамаганьні Польшчы. Гэтак пачалося наладжваньне дыплёматычных, гандлёвых, чыгункавах, паштова - телеграфных і ўсякіх іншых зносінаў памі-ж абыдвума краямі, якія дагэтуль былі як - быццам у стане вайны. Польшча, як станоўча заявіў мін. Бэк, прыракае шанаваць дзяржаўную незалежнасьць Літвы. Але фактычна Літве пры ўсіх бясспрэчных карысьцях ад паразуменьня з Польшчай, „будзе вельмі цяжка абараніць палітычную дый нават — гаспадарчую самастойнасьць ад пераможнага ўплыву Польшчы. У кожным разе Польшча спаткае у Літве, яшчэ іншых і магутных конкурэнтаў: С. С. С. Р., а нават і Нямеччыну. І гэта ня гледзячы на тое, што апошняя так цяпер падружылася з Польшчай. С.С.С.Р., як ведама, здаўна ўжо мае вялікі ўплыў на Літве, і апошняя, пэўна-ж зусім не захоча выракацца гэтага магутнага саюзьніка, каб не паддацца цалком выключнаму ўплыву Польшчы, каторая, як „далёкую мэту", ставіць сабе — паводле блізу ўсяе польскае прэсы" — „ўзнаўленьне даўнейшай польска-літоўскай уніі" . . .

Гэтыя два факты: „аншлюс" Аўстрыі і наладжаньне зносінаў між Польшчай і Літвой, зьвязаныя адзін з адным, зрабілі вялізарны рух у нашай частцы Эўропы і будуць надоўга вызначаць шляхі развою яе палітычнага і гаспадарчага жыцьця. Якое значэньне гэта будзе мець для беларускага жыцьця, пакуль што сказаць цяжка . . . Трэба яшчэ перачакаць — у якую форму увальецца, само гэтае польска-літоўскае „паразуменьне".

## ХРОНІКА.

⁂ **Новыя песьні.** Вялікі украінскі кампазытар і гэніяльны дырыгент Александар Кошыц, які жыве цяпер у Нью - Іорку апрацаваў для мяшанага хору і прыслаў у Вільню Рыгору Шырме беларускія народныя песьні: „Там за садамі" (калядка), „Ой

вышла маці із новае хаты“ і „Ой у садзе-вінаградзе“. Гэтыя беларускія працы вялікага мастака заўсёды будуць у гісторыі нашай культуры дарагімі дыямэнтамі. „Ой у садзе-вінаградзе“ прысьвечана Беларускаму хору Рыгора Шырмы. Сваіх чытачоў пазнаёмім бліжэй з жыцьцём і творчасьцяй слаўнага кампазытара ў наступным нумары нашага журнала.

*** **„Калосьсе“.** Літаратурна-навуковы квартальнік № 1-ы за 1938 г. выйшаў з друку. Сваім зьместам і вонкавым выглядам робіць саліднае ўражаньне. Цана асобнага нумару 50 гр.

*** **„Наша песьня“.**, зборнік 15 народных песень з рэпэртуару Беларускага хору Рыгора Шырмы. Музычная апрацоўка на мяшаны хор компазытараў: Славянскага, Рагоўскага, Уладзімірскага, Нікольскага, Галкоўскага, Сьвешнікава і Грэчанінава. Цана 1 зл. 50 гр. без перасылкі. Выпісваючыя праз нашу рэдакцыю, за перасылку не плацяць.

## ОЙ ВЫШЛА МАЦІ.

(В. Шакуны, Пружанскага павету, зап. Р. Шырма).

① Lento. (Павольна) Арр. А. КОШЫЦ.





2
Solo
Ой вя - - - чэ - рай,
ой вя - - чэ - рай,
Solo
Ой вя - - - - чэ - рай,
ой вя - - - - чэ - рай,
ма - - ці,
tutti
ма - - - - ці,
ой вя - чэ - рай,
Хор
ка - лі ты на - ва -
ка - лі на - - - ва - ры - - - - - - ла,
3
Condolore. (Тужліва)
ры - ла,
Бо ўжо мне,
бо ўжо
Solo
Бо ўжо мне та - ко - - - - му
мне та - ко - му
хлоп - цу ма - ла - до - - - - му
хлоп - - - - - - - - - - цу
ма - - - - ла - - - - до - - - му
вя - чэ - рань - ка ня
мі - ла.
4
Толь - кі мне,
Solo
Толь - кі


толь-кі
мне та-ко---му
хлоп-цу ма ла-до-му
мне,
толь-кі мне та-ко-му хлоп-цу ма ла-до-му
Хор.
ff
дзяў---чы---нанька
мі-ла.
5
Раз-вя-лі лю--
Хор
Раз вя лі
дзі, раз------вя-лі лю--дзі,
бліз-кі-я су-
лю-----------дзі, бліз------кі----
Largo. (Шырака).
се---дзі
я су-се-дзі
нам у па----ры ня
бы-ці.
нам